


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




**Цытата нумара:**

**Мы ўсё часцей бачым уладара па тэлебачанню і ўсё менш ведаем аб тым, што ён робіць.**

**Біл Майерс.**

№ 5 (141), САКАВІК 2012 ГОДА

**МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА**

# ПРАПАГАНДА ХЛУСНІ

**Прагляд асноўных дзяржаўных тэлеканалаў у нядзелю пад час тыднёвага тэлегляду ў чарговы раз засведчыў падман гледачоў з рупараў рэжыма. Гэта датычылася хлусні наконт санкцыяў Еўрасаюза супраць парушальнікаў праў грамадзян, так і прадпрыемстваў, якія працуюць на рэжым. Дасталося і патрыётам Беларусі, якія 25 сакавіка святкавалі чарговую гадавіну Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Ад грамадзян, якія карыстаюцца толькі тэлескрынямі, аказаўся поўнасцю схаваны сэнс санкцыяў Еўрапейскага саюза супраць рэжыму. Не будучы аматарам нядзельных праглядаў БТ і АНТ, прагляджаю іх толькі пры неабходнасці параўнання аб'ектыўнасці падачы інфармацыі. І адразу бачна, што штатныя прапагандысты беларускага тэлебачання старанна ствараюць у гледачоў ілюзорны погляд на пазіцыю еўрапейскіх краін. Ні месяц назад, ні ў гэтыя выхадныя пры асвятленні інфармацыі аб пашырэнні санкцый ЕС супраць беларускага рэжыму ніхто ў тэлесрыні ніякім чынам не нагадаў першапрычыну пашырэння санкцый. Ніхто з дыктараў не сказаў, што наяўнасць палітычных вязняў у беларускіх турмах пасля брутальных падзей 19 снежня 2010 і палітычнаматываваных прысудаў супраць кандыдатаў у прэзідэнты, дэмакратычных актывістаў вясной 2011 году з'яўляецца першапрычынай санкцый. Таксама ніхто з тэлеэкрана не казаў пра саму пастанову Рады міністраў замежных спраў ЕС, якую прынялі 23 сакавіка. Пашырэнне спісу санкцый выклікана далейшым пагаршэннем умоў утрымання палітвязняў, далучэння да гэтага спісу віцебчука Сяргея Каваленкі, якога крыміналізавалі за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга, неабгрунтавана хуткім растрэлам Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, калі яшчэ не разгледзілі наглядную скаргу, а таксама скаргу ў Камісіі ААН па правах чалавека, ціск на дыпламатаў краін ЕЗ.

Замест праўдзівага інфармавання грамадзян аб санкцыях штатныя прапагандысты неслі хлусню наконт быццам бы барацьбы еўрапейцаў супраць беларускіх вытворцаў, якія заваёўваюць (??) еўрапейскі прадуктовы рынак. Таксама ў тэму часа ішло нагадванне аб заклапочанасці Еўрасаюза поспехамі (??) эканамічнай еўраазійскай інтэграцыі. Адначасова з гэтым у вушы гледачоў уводзілася інфармацыі аб гатоўнасці Расіі і Казахстана бараніць рэжым ад еўрапейскіх санкцый. Дзеля гэтага да мікрафонаў запрашаліся патрэбныя каментатары, якім было спадручна выконваць замову прапагандыстаў. І ніякага альтэрнатыўнага меркавання аб санкцыях для беларускіх тэлегледачоў прадстаўлена не было. Як іх няма на беларускім тэлебачанні ўжо амаль 15 гадоў з часоў змены Канстытуцыі Беларусі.

Не утрымаліся прапагандысты, каб не замбіраваць гледачоў і наконт святочнай акцыі да 25 сакавіка. У прапагандыскім ражы без ўсякага сумлення рупары замбіравання нават і не згадалі, што 25 сакавіка адзначаецца незалежнасць першай сучаснай беларускай дзяржавы – БНР. Святочную імпрэзу выкарыстылі дзеля таго, каб хлусіць наконт таго, што гэта была антылукашэнкаўская акцыя, якая падтрымлівала санкцыі ЕС. Але ж чаго чакаць ад тых, хто вядзе лік гісторыі калі не з 1994 года, то не далей другой сусветнай вайны? Наогул,смешны выглядалі кадры зманціраваныя пад "200" удзельнікаў, калі ў святочнай акцыі удзельнічала каля трох з паловай тысяч грамадзян. Зменшыць колькасць удзельнікаў у 15-20 разоў – тут патрэбен своеасаблівы талент штатных прапагандыстаў.

Наша дзяржаўнае тэлебачанне зараз спаўна адпавядае статусу прапагандыста хлусні. І ў гэтай ролі будзе знаходзіцца да таго часу пакуль у краіне не адбудуцца сапраўдныя выбары, а не іх палатачная імітацыя.

**Леанід Гаравы.**

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА**

# АД ГАЛОДНАГА ДА ПАЎГАЛОДНАГА СТАНУ

**Сельгаспрадпрыемствы Гарадоччыны з году ў год не могуць забяспечыць дастатковую колькасць кармоў на ўмоўную галаву жывёлы. Па гэтаму паказчыку Гарадоччына знаходзіцца на апошнім месцы ў краіне.**

Стан сельскай гаспадаркі вызначаецца па ўтрыманню буйной рагатай жывёлы і кароў у зімовы стойлавы перыяд, калі жывёлы знаходзяяца на пастаянным утрыманні на фермах. Пры усіх бравурных летніх рапартах аб нарахтоўцы кармоў на адну умоўную жывёлу на канец зімовага перыяда аказваецца, што ў кароў, цялят і бычкоў калектыўных гаспадарак раёна паўгалоднае існаванне.

Сярод 118 раёнаў краіны забяспечанасць кармамі нашых гаспадарак самая нізкая. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэту на 1 сакавіка на адну умоўную галаву жывёлы ў раёне прыходзілася толькі 4,6 ц кармоў. Гэта ў два разы менш, чым у сярэднім па Віцебскай вобласці і ў два з паловай разы менш, чым па краіне. З іншых раёнаў краіны такі нізкі паказчык, як 4,9 ц на галаву жывёлы маюць толькі гаспадаркі Чэрыкаўскага раёна з Магілёўшчыны.

Пры гэтым дадзены паказчык для значна вышэйшы, чым ў мінулым годзе, калі на 1 сакавіка дадзены паказчык складаў толькі 2,8 ц. Такая забяспечанасць кармамі прывяла да таго, што на Гарадоччыне пагалоўе буйной рагатай жывёлы скарацілася амаль на 650 галоў. І тут таксама нашы сельгасвытворцы "рэкардсмэны" Віцебшчыны па змяншэнню пагалоўся грамадскага статку.

Разруха у галавах нашага нацыянальнага кіраўніцтва аб перспектывах развіцця Беларусі сказваецца на вядзенне сельскай гаспадаркі і ў нас на Гарадоччыне. Адмова ад фермерскага развіцця, калі фермеры становяцца гаспадарамі на сваёй зямлі, прыводзіць да прымітывізацыі форм гаспадарання. І толькі гіганцкія дзяржаўныя датацыі пакуль утрымліваюць буйныя гаспадаркі на плаву, але не вырашаюць пытанне іх рэальнай канкурэнтаздольнасці .

**Л. Антонаў.**

**КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ**

# СВЯТА ТЭАТРАЛЬНАЙ ТВОРЧАСЦІ

**21 сакавіка ў Доме культуры г. Гарадка адбыўся конкурс "Залатая маска" тэатральнага аддзялення Дзіцячай школы мастацтваў. Навучэнцы тэатральнага аддзялення дэманстравалі свае рэжысёрскія і акторскія уменні напярэдадні Міжнароднага дня тэатра, які адзначаецца ў свеце 27 сакавіка.**

Конкурс "Залатая маска" ўпершыню адбыўся ў Гарадку і стаў дэманстрацыяй творчых дасягненняў навучэнцаў тэатральнага аддзялення Дзіцячай школы мастацтваў. У конкурсе удзельнічалі дзесяць навучэнцаў аддзялення, якія выступалі ў якасці і рэжысёраў і актораў. На працягу амаль трох гадзін удзячныя гледачы былі сведкамі дзесяці самых розных тэатральных мініяцюр, якія падрыхтавалі канкурсанты. Конкурс распачаўся імпрэзай з "Рамэа і Джульеты", у якой маладыя акцёры імкнуліся перадаць пачуцці закаханых.

Далейшыя нумары конкурса былі самабытнымі знаходкамі, ў якіх адчуваўся добры творчы пачатак. Сярод прадстаўленых мініяцюр былі і "Вечар" Дударава, і "Вій" Гоголя, і "Пітэр Пэн" Джэймса Бары, і "Чорт і баба" Аляхновіча, і "Вечары на хутары бліз Дзіканькі", і "Смерць і воін" Твардоўскага, а таксама дзеі з іншых пьес . Удзельнікі конкурса з маладым імпэтам імкнуліся перадаць асаблівасці характараў сваіх герояў і зал часта і ўдзячна апладзіраваў дэбютантам сцэны.

Журы конкурса было складана вызначыць лепшых сярод шматгадзіннага фейерверка творчасці, але шматлікія намінацыі дазволілі выказаць падзяку ўсім удзельнікам свята тэатральнай творчасці: як акторам, так і пачынаючым рэжысёрам. Намінацыі выканаўцаў: лепшай мужчынскай ролі, лепшай жаночай, ролі другога плану, эмацыйнага актора, гістарычна-патрыятычнага персанажа знайшлі сваіх уладальнікаў.

Сярод пачынаючых рэжысёраў намінатамі сталі: Екацярына Лабанава "Вечара на хутары бліз Дзіканькі" (Гогаль) - 3-е месца, Снягір Настасся "Вечар" (Дударава) – 2-е месца; Ляўковіч Мікіта "Смерць і воін" (Твардоўскі) – 1-е месца. "Гранпры" конкурса "Залатая маска" атрымала Галуза Ксенія за падрыхтоўку дзеі "Чорт і баба" з пьесы беларускага драматурга Ф. Аляхновіча. Старшыня журы Вольга Каўрыга (начальнік аддзела культуры райвыканкама) адзначыла творчыя знаходкі ў прадстаўленай дзеі, а таксама засведчыла, што Гарадоцкі тэатр "Фанограф" не раз звяртаўся да самабытнай творчасці Ф. Аляхновіча.

Тэатральная свята адбылося дзякуючы творчай дзейнасці выкладчыка тэатральнага аддзялення Аляксандра Бязгінава, які заахвочвае навучэнцаў да пастаяннага пошука лепшых рэжысёрскіх і акторскіх рашэнняў. Кіраўніцтва Дзіцячай школы мастацтваў разлічвае зрабіць конкурс "Залатая маска" штогадовай падзеяй.

**Л. Гаравы.**

**ЗДАРЭННЕ**

# ЗА МІНУЛЫЯ СУТКІ НА ДАРОГАХ КРАІНЫ ЗАГІНУЎ АДЗІН ЧАЛАВЕК

**Гэта адбылося 23 сакавіка ў г.п. Езярышча, дзе расіянін збіў мясцовую жыхарку ў 4 гадзіны раніцы.**

У гарадскім пасёлку Езярышча 26-гадовы расеец на «Opel Vectra» здзейсніў наезд на 42-гадовую мясцовую жыхарку, якая пераходзіла праезную частку па-за межаў устаноўленага пераходу. Як паведамляе прэс-служба УДАІ, ДТЗ адбылося ў чатыры гадзіны раніцы. Жанчына ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памерла на месцы.

Па інфармацыі рэспубліканскай ДАІ за мінулыя суткі на дарогах рэспублікі зарэгістравана 256 ДТЗ з матэрыяльнымі стратамі. Здзейснена 9 ДТЗ, у якіх 1 чалавек загінуў і 8 атрымалі раненні. За кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане ап'янення затрымана 109 кіроўцаў. За перавышэнне хуткасных рэжымаў руху прыцягнута да адказнасці 1454 кіроўцаў. 707 пешаходаў прыцягнуты да адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху, прычым у 267 выпадках за адсутнасць святловяртальных элементаў.

Праігнаравалі абавязковае выкарыстанне рамянёў бяспекі 528 кіроўцаў. Між тым да 26 сакавіка па ўсёй краіне праходзіць Рэспубліканская прафілактычная акцыя па папулярызацыі выкарыстання сродкаў пасіўнай бяспекі «Зрабі паездку бяспечнай!».

**Т. Гаражанка.**

# АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя "Гасцінец" зmяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец».***

САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

# НЕНАЛЕЖНАЕ ВЫКАНАННЕ АБАВЯЗКАЎ ПРЫВЯЛО ДА ТРАГЕДЫІ

**Пракуратура Гарадоцкага раёна на сайце райвыканкама распаўсюдзіла інфармацыю аб пажары ў в. Мехавое ў выніку якога пацярпела чатырохгадовае дзіця. Пракуратура выявіла неналежнае выкананне службовых абавязкаў, а таксама недастатковыя веды патрабаванняў заканадаўства аб абароне дзяцей з небяспечных сем'яў з боку кіраўніцтва аддзела адукацыі, школы і сельскага савета.**

21 лютага у в. Мехавое адбыўся пажар у доме дзе знаходзіўся чатырохгадовы Кірыл Сяргеяў, якога адного без нагляду пакінула яго маці Анішчанкава Наталля. Дзякуючы мужным дзеянням аднавяскоўца Яўгена Сямёнава Кірыл быў выратаваны і ў сувязі з цяжкім атручваннем чадным газам быў дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне абласной бальніцы.

Па ацэнцы Гарадоцкай пракуратуры выяўлены парушэнні заканадаўства аб абароне дзяцей у небяспечных сем'ях, якія дапушчаны Гарадоцкім РАА, КСН Бычыхінскага сельвыканкама, Бычыхінскай школай. Парушэнні заканадаўства датычацца таго, што дзеці з дадзенай сям'і былі зняты з ўліку небяспечных сем'яў, як саветам прафілакцыі Бычыхінскай школай, так камісіяй па справах непаўнагадовых Бычыхінскага сельсавета неабгрунтавана і заўчасна. Гэты вывад грунтуецца на тым, што да пажару ў сям'і Н. Анішчанкавай не былі ўхілены фактары, якія абумоўлівалі сацыяльна небяспечнае становішча дзяцей. Гэтым фактарам з'яўляецца сістэматычнае пакіданне аднаго дома чатырохгадовага Кірыла. Маці не выконвала рэкамендацыі школы і сельсавета аб наведванні ім Бычыхінскага дзіцячага садка.

У гэтай сітуацыі кіраўніцтва школы і сельсавета абавязана было пісьмова папярэдзіць грамадзянку Н. Анішчанкаву аб адказнасці за пакідання дзіцяці ў небяспечным становішчы. Але гэтага зроблена не было, што сведчыць аб неналежным выкананні мер, якія забяспечваюць ліквідацыю сацыяльна небяспечнага становішча ў сям'і . І як вынік непрыняцця гэтых мер стаў пажар у доме Анішчанкавых у выніку якога пацярпеў малалетні Кірыл, жыццё якога не здолелі выратаваць лекары.

Па ацэнках пракуратуры дадзеная трагедыя адбылася таму, што адказныя работнікі мелі недастатковы узровень ведаў патрабаванняў заканадаўства, а таксама неналежным чынам выконвалі свае службовыя абавязкі, што адносіцца да дысцыплінарных правіннасцяў адпаведна арт. 197 Працоўнага кодэксу Беларусі.

Па выніках разгляду пытання Гарадоцкай пракуратурай зроблена прадстаўленне райвыканкаму аб ухіленні выяўленых правапарушэнняў заканадаўства. Па выніках прынятага райвыканкамам рашэння 5 адказных работнікаў прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці, пры гэтым двое з іх адхілены ад сваіх пасадаў. Аб прыняцці мер да маці, якая не забяспечыла небяспечныя умовы жыцця для сына ў інфармацыі не паведамляецца.

На жаль, гэта не адзіны трагічны выпадак на Віцебшчыне за першыя два месяцы гэтага году, калі дзеці пацярпелі ад пажару. Напрыканцы студзеня ў пажары загінула трое дзяцей ў Шаркаўшчынскім раёне, а на пачатку сакавіка ў Міёрскім раёне загінула таксама на пажары маці з аднагадовым дзіцяці. А 7 сакавіка пры пажары ў расонскай школе пацярпела семь вучняў. Гэтыя масавыя трагедыі сведчаць аб нездавальняючым становішчы з пажарнай небяспекай, як у адукацыі, так і ў грамадстве.

**Л. Антонаў.**

ЗНЯВАГА БЕЗ СУДА

# ЛІКВІДАВАЦЬ "ДОШКУ ГАНЬБЫ"

**Актывіст Руху "За свабоду!" Леанід Гаравы звярнуўся ў пракуратуру Гарадоцкага раёна з патрабаваннем аб ліквідацыі "Дошкі ганьбы", якую у цэнтры Гарадка усталявала КУВП "Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак". Таксама актывіст патрабуе прадстаўлення іфармацыі аб колькасці сродкаў, якія выдаткоўваліся на яе усталяванне, рамонт і абслугоўванне.**

3 верасня 2011 года ў Гарадку на вул. Савецкай каля цэнтральнага прадмага КУВП "Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак" усталявала "Дошку ганьбы за няввыплату камунальных паслугаў", якая каштуе мусіць не адзін мільён рублёў. На дадзенай дошцы змяшчаюцца прозвішчы грамадзян, якія быццам бы маюць даўгі перад гэтым прадпрыемствам. Абураныя грамадзяне неаднаразова знішчалі спісы грамадзян, якія размяшчаліся на дошцы, а таксама ламалі гэтую "Дошку ганьбы".

У сваім звароце сябар Руху адзначае, што Рэспубліка Беларусь дэкларуецца, як прававая дзяржава ў якой дзейнічае прынцып прэзумпцыі нявінаватасці. Вінаватасць грамадзян перад законам устанаўліваюць органы ўпаўнаважаныя на гэта заканадаўствам у межах адміністрацыйнага, крымінальнага і іншага права.

Леанід Гаравы мяркуе, што КУВП "Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак" не мае паўнамоцтваў устанаўліваць такую вінаватасць, а тым больш зняважліва, абразліва ставіцца да грамадзян, якія ў межах розных абставін не могуць своечасова заплаціць за камунальныя паслугі.

Сапраўды, чаго варта сітуацыя, калі грамадзяне пагоршылі свой жыццёвы узровень амаль у тры разы ў сувязі з некампетэнтнымі дзеяннямі кіраўніка краіны, урада і Нацбанка, калі ў 2011 годзе адбылася шалёная дэвальвацыя і інфляцыя і адпаведна ў некалькі разоў выраслі кошты на прадукты і прамысловыя тавары.

Дадзеная сітуацыя закранае і асабістыя інтарэсы Леаніда Гаравога, бо дадзенае прадпрыемства, па меркаванню актывіста, не выконвае перада ім сваіх абавязкаў адносна зваротаў грамадзян, а таксама парушае правы спажыўца камунальных паслугаў. Яшчэ ў снежні месяцы мінулага года спадар Гаравы звярнуўся з лістом да кіраўніка прадпрыемства наконт таго што не аказваюцца паслугі па вывазу смецця ад дома 16 па вул. Галіцкага, а рахунак за гэта выстаўляецца штомесячна. У студзені месяцы спажывец звярнуўся да кіраўніка прадпрыемства пад час "прамой лініі" і выказаў гэтыя прэтэнзіі, але за зіму так і не атрымаў адказ.

У сваім звароце актывіст Руху "За свабоду!" патрабуе прадставіць інфармацыю аб тым, хто прыняў рашэнне аб усталяванні "Дошкі ганьбы" ў Гарадку і колькі сродкаў выдаткоўвалася на яе усталяванне, рамонт і абслугоўванне. Адначасова з гэтым выказваюцца патрабаванні аб ліквідацыі "Дошкі ганьбы" у Гарадку, а таксама аб прынясенні прабачэння ўсім грамадзянам, якія трапілі на гэту "дошку" ў выніку самаўпраўных дзеянняў прадпрыемства.

Актывіст лічыць, што прадпрыемства можа толькі інфармаваць грамадства аб неплацельшчыках камунальных паслугаў, а не займацца самаупраўствам на абразе і зняваге сваіх суайчыннікаў. Ды і прадстаўленне такой адкрытай інфармацыі небяспечна, бо ёй могуць скарыстацца махляры для набыцця і прадажы кватэр неплацельшчыкаў. У рэшцерэшт сёння не часы кітайскай культурнай рэвалюцыі, калі дзейнічалі дан-дзы-бао, а дваццаць першы век і дэкларуемая прававая дзяржава на Беларусі.

**Л. Антонаў.**

ПРАБЛЕМА ДАРОГ

# Дрэнныя дарогі як дыягназ

**Кожная вясна выстаўляе беларускім дарожнікам "нездавальняюча" за ўтрыманне дарог у правінцыі і асабліва вуліц прыватнага сектару райцэнтраў або вёсак.**

Кепскі майстар перарабляе дрэнную працу па некалькі разоў, але ніколі не давядзе яе да ладу. Для савецкай краіны, якую пачалі будаваць бальшавікі, а зараз на Беларусі працягвае будаваць вертыкаль, такой працай стала будаўніцтва дарог. Менавіта будаўніцтва дарог у правінцыі, у прыватным сектары райцэнтраў і вёсак яскрава сведчыць аб адсталасці краіны ад цывілізаванасці.

Нашы сельскія дарогі і дарогі ў прыватным сектару здольны "ўразіць" замежнікаў. Сябар аднойчы апавядаў, як паляўнічыя з Нямеччыны загрузлі на сваім джыпе на нашым раздарожжы і з вялікім здзіўленнем здымалі кадры аб "палонным" джыпе, які не мог рухацца ні наперад, ні назад. Гэта было ў сельскай мясцовасці, але і вуліцы Гарадка становяцца капканам у вясенні перыяд. Гэта датычыцца гравійных пакрыццяў, якія ператвараюцца ў багну па вясне. Зараз такая багна ўтварылася на скрыжаванні вуліц Старапалацкай і Чкалава. І гэта пры тым, што быццам бы па восені дарожнікі ўмацоўвалі гэта скрыжаванне. Фактычна вуліцамі для джыпаў становяцца пад час вясенняга паваддка мікраёраён вуліц Міра або Маладзёжнай, або у Латышоўцы, або на Талкачова з Палявой.

Не ў лепшым стане і асфальтавае пакрыццё вуліц. Слаламнае руленне дэманструюць аўтааматары рухаючыся па вул. Вакзальнай у накірунку чыгуначнага пераезду. Ямінь чакаюць аўтамабілістаў на Карла Маркса і Чкалава. Наогул цяжка пералічыць тыя вуліцы, дзе асфальтавае пакрыццё патрабуе тэрміновага рамонту. Але ямкавы рамонт, які штогод робяць дарожнікі, з'яўляецца толькі імітацыяй рамонту, бо на наступны год зноў трэба рамантаваць няякасныя участкі дарожнага пакрыцця.

Мусіць наша дзяржава занадта багатая, каб кожны год рабіць рамонт амаль адных і тых жа сапсаваных участкаў дарог? Але гэта не так. На пачатку году ў СМІ прайшла інфармацыя, што на ўтрыманне дарог не хапае сродкаў і неабходна ўводзіць дадатковы дарожны падатак. Але відавочна, што за сельскай гаспадаркай і будаўніцтвам дарожная гаспадарка становяцца самымі ласымі кавалкамі "засваення" бюджэтных сродкаў.

Выправіць становішча можа толькі прыход у гэтыя галіны сапраўдных прыватнікаў. Менавіта прыватнікі будуць рабіць справу якасна і з мінімум затратаў, калі сярод іх будзе рэальная канкурэнцыя. І ад гэтага выйграе кожны грамадзянін. Але пры існуючай уладзе такога не дачакацца.

**Л. Антонаў.**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЖАНЧЫН ЗА МІНУЛЫ ГОД НА ГАРАДОЧЧЫНЕ ЗАГІНУЛА ЗНАЧНА БОЛЬШ, ЧЫМ РАНЕЙ

За 2011 год на тэрыторыі Гарадоцкага раёна гібель мужчын засталася на мінулагоднім узроўні, а жанчын загінула ў два разы больш.

Паводле інфармацыі пракуратуры Гарадоцкага раёна, размешчанай на сайце райвыканкама, за мінулы год у раёне загінула 24 жанчыны і 45 мужчын. Колькасць загінуўшых мужчын засталася на мінулагоднім узроўні, а жанчын загінула ў два разы больш: з 12 да 24.

Па відах гібелі людзей першае і другое месца падзялілі такія віды, як пажары – 14 чалавек, так і атручванне алкаголем – 14. І калі колькасць загінуўшых мужчын ад пажараў і атручвання засталася на мінулагоднім зроўні, то колькасць жанчын павялічылася амаль удвая. У 2010 годзе на пажары загінула 2 жанчыны, а ў 2011 – 4, ад атручвання алкаголем лічбы такія: 2010 – 4, 2011 – 7.

У два разы больш загінула грамадзян ад пераахалоджвання: у 2010 г. – 4, у 2011 г. – 8. І калі раней замерзла толькі адна жанчына, то ў 2011 г. – 3. Па відах занятасці каля 40% склалі пенсіянеры – 26, амаль столькі ж не працуючы – 25, а працуючыя – 18. Пры гэтым адбыўся значны рост загінулых сярод тых, хто стаіць на наркалагічным уліку: з аднаго чалавека ў 2010, да 6 ў 2011 г.

Наогул, статыстыка засведчыла, што дзве трэці загінулых знаходзіліся ў стане алкагольнага апьянення. Гэта датычыцца ўсіх загінулых на пажарах – 14, на вадзе – 5 і зразумела – усе ад алкагольнага атручвання. Алкагольнае апьяненне суправаджала смерць 49 чалавек, што на два выпадкі больш, чым у 2010 г.

**Т. Гаражанка.**

БРАКАНЬЕРСТВУ – БОЙ!

# СНАЧАТКУ ДЗІКІ, А ЗАРАЗ КАЗУЛЯ

Інспектары Гарадоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пасля выяўлення ў Шумілінскім раёне браканьерства з ужываннем пяцель выявілі такі ж факт браканьерства ў Гарадоцкім раёне.

Паводле інфармацыі прэсслужбы Дзяржінспекцыі, 6 сакавіка работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі ў паляўнічай зоне Гарадоцкай РАС РДГА «БТПР» выявілі месца, дзе пятлёй здабылі казулю. Вопыт і назіральнасць не падвялі дзяржінспектараў: зарыентаваўшыся па следзе, работнікі інспекцыі выйшлі да аднаго з вёсак у Гарадоцкім раёне. Да пошуку лаўца падключыліся праваахоўныя органы, і агульнымі намаганнямі ён быў усталяваны. Ім аказаўся непрацуючы вясковец. Аднак ніякай незаконна здабытай жывёлы ў яго хаце не выявілася. Туша казулі, здабытай пятлёй, захоўвалася ў хаце пажылой суседкі. Жывёла было з двума эмбрыёнамі, а значыць, шкода прыродзе расцэньваецца як у асоба буйным памеры - 6 мільёнаў 300 тысяч рублёў. Узбуджана крымінальная вытворчасць па артыкуле 282 ч. 4 КК РБ: «Незаконнае паляванне», якое прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да шасці гадоў.

Нагадаем, што трыма тыднямі раней у Шумілінскім раёне гарадоцкія дзяржінспектары выявілі два выпадкі браканьерства на дзікоў з ужываннем пяцель. У дачыненні да шумілінскіх браканьераў таксама ўзбуджана крымінальная вытворчасць.

**Т. Гаражанка.**

ЕЎРАПЕЙСКІ НАПРАМАК

# ПАШЫРЭННЕ САНКЦЫЙ ЕС ДАТЫЧЫЦЬ БІЗНЭСУ, ШТО ПАДТРЫМЛІВАЕ РЭЖЫМ

У ВЫНІКОВЫМ ДАКУМЕНЦЕ, ПРЫНЯТЫМ 23 САКАВІКА Ў БРУСЕЛІ НА ПАСЯДЖЭННІ САВЕТА МІНІСТРАЎ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ КРАІН ЕС, ЗАЗНАЧАЕЦЦА: СПІС ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСІ, СУПРАЦЬ ЯКІХ ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ САНКЦЫІ, ПАШЫРАНЫ ЗА КОШТ «ЛЮДЗЕЙ, АДКАЗНЫХ ЗА СУР'ЁЗНЫЯ ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА АБО РЭПРЭСІІ Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ І ПАЛІТЫЧНАЙ АПАЗІЦЫІ».

Савет ЕС таксама прыняў рашэнне аб уключэнні ў спіс бізнесменаў і кампаній, якія «атрымліваюць выгаду ад рэжыму або падтрымліваюць яго», і пакідае за сабой магчымасць далейшага пашырэння абмежавальных мер на сваіх наступных пасяджэннях, калі палітзняволеныя не будуць вызвалены.

Еўрасаюз зноў заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных.

У дакуменце асуджаецца адмова ў задавальненні касацыйнай скаргі праваабаронцы Алеся Бяляцкага і асуджэнне на два гады і адзін месяц пазбаўлення волі актывіста апазіцыі Сяргея Каваленкі. Апрача таго, гаворыцца аб «сур'ёзнай занепакоенасці ЕС» адносна інфармацыі аб магчымым прымяненні катаванняў і жорсткім абыходжанні ў дачыненні да палітзняволеных у турмах, у тым ліку да Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Дзмітрыя Бандарэнкі, Дзмітрыя Дашкевіча і Мікалая Аўтуховіча.

Савет ЕС асудзіў прывядзенне ў выкананне смяротных прысудаў Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, зноў заклікаў беларускія ўлады да ўвядзення мараторыя на смяротную кару і зазначыў, што Еўрасаюз выступае супраць гэтага віду пакарання пры любых акалічнасцях.

Еўрасаюз зноў заклікаў беларускія ўлады спыніць усякі пераслед прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці, праваабаронцаў, журналістаў і не абмяжоўваць іх свабоду перамяшчэння. «ЕС асуджае задушэнне мірных пратэстаў і сістэматычнае выкарыстанне судовай сістэмы для рэпрэсій, у тым ліку ў дачыненні да мірных пратэстантаў, — гаворыцца ў дакуменце. — ЕС таксама моцна занепакоены зменамі ў заканадаўстве, якія яшчэ больш абмяжоўваюць правы беларускіх грамадзян на свабоду сходаў, асацыяцый і доступу інфармацыі ў сетцы інтэрнэт».

Апрача таго, ЕС мае намер праінфармаваць міжнародную і нацыянальныя хакейныя федэрацыі аб «адсутнасці ў Беларусі павагі да правоў чалавека, вяршэнства закону і дэмакратычных прынцыпаў».

У дакуменце зазначаецца, што ЕС «глыбока прыхільны падтрымцы беларускага народа і грамадзянскай супольнасці і супрацоўніцтву з імі, а таксама дэмакратычным памкненням беларусаў». Савет ЕС вітае рашэнне аб запуску праграмы Еўрасаюза «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі» з беларускім грамадствам, якая прадугледжвае неабходныя рэформы ў Беларусі, а таксама магчымую падтрымку ЕС у сувязі з гэтым.

Еўрасаюз таксама заклікае беларускія ўлады пачаць нацыянальны дыялог з грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй, каб «пракласці шлях» для правядзення парламенцкіх выбараў у 2012 годзе ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі і стандартамі, заклікае супрацоўнічаць з АБСЕ і прытрымлівацца ўзятых на сябе абавязацельстваў як краіна — удзельніца гэтай арганізацыі, паведамляе БелаПАН.

ЕС зноў заяўляе пра сваю гатоўнасць пачаць перамовы па пагадненнях аб аблягчэнні візавага рэжыму і аб рэадмісіі, якія «ўмацавалі б кантакты паміж людзьмі, што пайшло б на карысць жыхарам Беларусі», і шкадуе «аб неканструктыўнай пазіцыі беларускіх уладаў, якія не адказалі дагэтуль на ліст, накіраваны ў чэрвені 2011 года, што заклікаў пачаць перамовы».

ДЗЕНЬ ВОЛІ

# ПЛЕБІСЦЫТ У ІМЯ БЕЛАРУСІ

СВЯТКАВАННЕ ДНЯ ВОЛІ – ГЭТА ПУБЛІЧНЫ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎРОК ГІСТОРЫІ, ПЛЕБІСЦЫТ БЕЛАРУСАЎ НА ВЕРНАСЦЬ ПАМЯЦІ ПРОДКАЎ, НАЙВЫШЭЙШАЯ ПРАЯВА СІЛЫ БЕЛАРУСКАГА ДУХУ І ПРАГІ ДА СВАБОДЫ.

Любая форма адзначэння гэтага Свята – годная і патрэбная.

Але толькі ў супольным парыве, талакой, беларусы патрапляюць рабіць больш і найлепш, дасягаць амаль немагчымага.

Асабліва важным ёсць шанаванне нашага Свята сёння - у варунках дыктатуры і дзяржаўнага пераследу беларусаў-патрыётаў.

Святкаваць Дзень Волі –

- гэта віншаваць блізкіх і сяброў;
- гэта аздобіць нацыянальнымі сімваламі дом, машыну, вопратку;
- гэта ўшанаваць памяць герояў Беларусі;
- гэта праявіць салідарнасць з сённяшнімі змагарамі, асабліва з тымі, хто, як Зміцер Дашкевіч, Сяргей Каваленка, Мікола Статкевіч, Андрэй Саннікаў, Павел Севярынец ды іншыя палітвязні, несправядліва кінуты за краты турмаў;
- гэта ладзіць адмысловыя выставы, чытанні і канферэнцыі;
- гэта сабрацца за святочнай бяседай;
- гэта размаўляць на мове продкаў і пісаць дыктоўкі па неўміручых тэкстах;
- гэта збірацца на мітынгі і ісці шэсцямі па вуліцах гарадоў, мястэчак ды вёсак.

Ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі – вельмі актуальныя для нас сёння і будуць такімі надалей. Нам след будаваць сапраўды Беларускую і сапраўды Народную Рэспубліку, нашу краіну, дзе мы гаспадары. БНР – не проста сімвал, а альтэрнатыва РБ. Каштоўнасць незалежнасці – абсалютная для вольнага народу. Наша дзяржаўніцкая традыцыя і намаганні, зробленыя дзеля ейнага аднаўлення і захавання, - унікальныя.

Беларусь жыве і будзе жыць тады, калі яна не толькі жыве, але і дынамічна развіваецца, стварае найлепшыя ўмовы для самарэалізацыі сваіх грамадзянаў, шануе сваю мову, культуру і знаходзіць паразуменне сярод суседзяў.

Беларусы!

Згадайма, як бягуць мурашы па скуры пасля магутнага воклічу "Жыве Беларусь"!

Згадайма, як трымціць сэрца ад гонару за велічна ўзняты бел-чырвона-белы сцяг са святой "Пагоняй"!

Каму, як не нам, абараняць нашу незалежнасць, свабоду, мову і правы на годнае жыццё!

Мы маем шанец выйсці ў Дзень Волі на галоўны праспект сталіцы, каб прадэманстраваць нашу пашану да гісторыі і рашучасць дзеля будучыні.

Будзьма ж разам 25 сакавіка на Акадэміі Навук! Хай наш сцяг лунае над галовамі і натхняе нас на лепшае.

Жыве Беларусь!

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ.**

ПАМЫЛКОВЫ АДКАЗ

# Эксперт: Ермакова атаясамляе сябе з Маўродзі

КІРАЎНІК АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА «СТРАТЭГІЯ» ЛЕАНІД ЗАІКА НАЗВАЎ ПАМЫЛКІ КІРАЎНІКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ НАДЗЕІ ЕРМАКОВАЙ, ЗА ЯКІЯ, У СВОЙ ЧАС, СТАВІЎ СТУДЭНТАМ «ДВОЙКІ».

У ходзе «прамой лініі» у газеце «Рэспубліка», якая была апублікаваная, кіраўнік Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што «заканадаўствам не прадугледжана кампенсацыя укладчыкам тых грошай, якія абясцэньваюцца ў працэсе інфляцыі».

Разам з тым, яна сказала, што Беларусь - гэта справядлівае дзяржава, і абгрунтавала сваё меркаванне: «Улічваючы тое, што многія грамадзяне ў мінулым годзе сапраўды панеслі пэўныя страты ў сувязі з дэвальвацыяй і высокай інфляцыяй, дзяржавай зараз актыўна прымяняюцца іншыя кампенсацыйныя механізмы - павялічваюцца пенсіі, дапамогі, расце заработная плата».

Вядомы беларускі эканаміст Леанід Заіка лічыць, што кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі «зрабіла вельмі дрэнную рэч». Як сказаў эксперт карэспандэнту сайта «Таварищ.online», «яна атаясамляе сябе з Маўродзі. Як навуковец, спецыяліст у галіне эканамічнай тэорыі хачу падкрэсліць, што насельніцтва страціла ад дэвальвацыі ».

Паводле яго слоў, насельніцтва да 2011 года аддавала грошы, якія ў міжнародных супастаўлення маглі раўняцца, умоўна, 3 мільярдам даляраў. «А вось пасля дзеянняў Нацбанка, праўда, сама Ермакова да гэтага не датычная, трэба быць сумленным, замест 3 мільярдаў застаўся адзін. Гэта значыць свае абавязацельствы банкі не выканалі, але не выканалі па прычыне памылак менавіта Нацыянальнага банка», - перакананы эканаміст.

Ён кажа, што калі б Беларусь была краінай з моцнай прававой сістэмай, то індэксаваць прыйшлося б. А меркаванне Ермаковай аб павышэнні, лічыць некампетэнтным. «Нейкія выплаты, рост заробкаў і пенсій не маюць ні-я-ка-га дачынення да пытання кампенсацыі. У гэтым галоўная тэарэтычная памылка спадарыні Ермаковай, - заяўляе Заіка. - Зберажэнні не маюць ніякага дачынення да грашовых патокаў, да патокаў даходаў, якія ствараюцца цяпер. За такія памылкі я ў свой час ставіў «двойкі» студэнтам, сярод якіх, напэўна, былі і калегі Ермаковай».

ШТУЧНЫ КУРС

# КУРС РУБЛЯ ОПЯТЬ ПОДДЕРЖИВАЕТСЯ ИСКУССТВЕННО

В МАРТЕ СПРОС НА ДОЛЛАРЫ ПРЕВЫСИЛ ПРЕДЛОЖЕНИЕ. ЧТОБЫ НЕ ДОПУСТИТЬ ОСЛАБЛЕНИЯ БЕЛОРУССКОГО РУБЛЯ, НАЦИОНАЛЬНОМУ БАНКУ ВНОВЬ ПРИШЛОСЬ ПРИБЕГНУТЬ К ВАЛЮТНЫМ ИНТЕРВЕНЦИЯМ.

Такой вывод делает interfax.by, основываясь на данных Белорусской валютно-фондовой биржи. В период с 1 по 26 марта на торгах БВФБ валовый спрос на доллары превысил предложение почти на 94 миллиона USD. По логике курс белорусского рубля по отношению к американской валюте должен был снизиться. Но на практике он вырос, хотя и незначительно, что «свидетельствует о возобновлении валютных интервенций со стороны НББ после почти 4-месячного перерыва».

Есть и другие основания полагать, что курс рубля поддерживается искусственно. Как пишет «Белгазета», «показатели денежной массы пошли в гору обескураживающими темпами».

В феврале объём наличных денег (показатель М0) увеличился на 12,7%, денежный агрегат М1 – на 13,4%, рублевая денежная масса (М2) – на 9%. Широкая денежная масса на начало марта составила 114,9 триллиона рублей – большего показателя М3 в истории Беларуси не было.

Тем, для кого все эти М0, М1 и так далее – темный лес, поясним: печатный станок вновь включился. И это еще до посевной, на которую потребуется почти 10 триллионов рублей.

Кстати, инфляция в Беларуси с начала года составила уже около 5%, а вот рубль за этот же период не подешевел, а подорожал по отношению к доллару более, чем на 4%. Обычно так не бывает.

Однако всё это цветочки по сравнению с нашими «блестящими» перспективами. Помимо валютных интервенций на бирже, Национальный банк сейчас стерилизует рублевую массу посредством депозитов и краткосрочных облигационных займов аж под 30%. Но долго так продолжаться не может. Тем более, что уже объявлено про планируемое снижение ставки рефинансирования. А вместе с ней упадут и проценты по депозитам, как для субъектов хозяйствования, так и физических лиц. Что автоматически сделает вклады в национальной валюте менее привлекательными. В результате часть держателей начнет избавляться от белорусских рублей. Возрастет спрос на иностранную валюту. А в итоге – очередная девальвация: плавная или обвальная.

Даже если вышеизложенный сценарий каким-то чудом удастся предотвратить, рубль это в среднесрочной перспективе не спасает. Реформы в экономике вновь отложены в долгий ящик, а это значит, что причины, которые привели к девальвациям 2009 и 2011 гг., не устранены, пишет «Салідарнасць». Более того, власти вновь собственноручно организовывают очередной кризис, настаивая на повышении зарплаты до 500 долларов в течение года. Так что, очередной обвал белорусского рубля – это лишь вопрос времени.

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ СМУТКУЮЦЬ АБ СВАІХ ТЭРАРЫСТАХ?

КАВАЛЁВА І КАНАВАЛАВА ПРЫЛІЧЫЛІ ДА АХВЯРАЎ ВЫБУХУ, ЗА ЯКІ ІХ РАССТРАЛЯЛІ.

Рэакцыя беларусаў, якія лічаць, што віна Кавалёва і Канавалава не была даказаная, выявілася вельмі хутка. У сацыяльных сетках многія тут жа паставілі аватары з жалобнай стужкай і надпісам «15 +2 = 17»: да пятнаццаці якія загінулі ў выніку выбуху народ дадаў яшчэ двух. Беларускія сучасныя мастакі зрабілі некалькі плакатаў, на адным з якіх твар Кавалёва заліта крывёю, паэты напісалі вершы-рэквіемы. У «Фэйсбуку», на старонцы Таццяны Кавалёвай, сястры Уладзіслава, людзі пакідаюць спачуванні, падобныя адзін на аднаго - прыміце шчырыя спачуванні, трымайцеся, смуткуем.

Партрэт пакаранага Уладзіслава Кавалёва з'явіўся каля станцы метро «Кастрычніцкая» ў Менску, на якой адбыўся выбух 11 красавіка 2011 года. Побач з выхадам са станцы ўстаноўлена мемарыяльная таблічка, мінчане ўжо год нясуць да яе кветкі ў памяць аб загінуўшых. Партрэт Кавалёва з жалобнай стужкай прастаяў некалькі дзясяткаў хвілін, да яго паспелі паставіць запаленую царкоўную свечку і ўскласці кветкі. Пасля гэтага чалавек у цывільным, праўдзівы род заняткаў якога выдаваў слухаўка сувязі ў вуху, партрэт панёс, а двух мінчанак, якія спрабавалі пакінуць па дзве гваздзікі каля яго, адвялі ў стаялы непадалёк мікрааўтобус.

Нарад АМАПу дзяжурыць у Віцебску ў дамоў, дзе жылі Кавалёў і Канавалаў, да пад'езда не падпускаюць людзей з жалобнымі букетамі, некалькі чалавек затрымалі, але пазней адпусцілі без складання пратаколу. Суседзі сям'і Кавалёвых ўвесь вечар ішлі да маці пакаранага з выразам спагады, а камусьці з віцябчан атрымалася патрапіць у дом і ўскласці кветкі з чорнай стужкай і паставіць запаленую свечку ў кватэры Кавалёвых. Некалькі свечак стаіць і ў школы, дзе вучыліся пакараныя. Днём у нядзелю партрэт Кавалёва павесілі ў пераходзе ў віцебскай плошчы Перамогі, дзе адбыўся адзін з выбухаў, у якіх абвінавацілі Кавалёва і Канавалава.

Кветкі і партрэт аднаго з пакараных па справе аб выбуху ў мінскім метро з'явіліся ля амбасады Беларусі ў Францыі. У Вільні беларускую амбасаду «закавалі ў кайданкі» - замацавалі іх паміж прутамі агароджы, гэта мае на ўвазе, што Беларусь - паліцэйская дзяржава. У Брусэлі на беларускай амбасадзе зроблена графіці чырвонай фарбай: «Гэта пасольства забойцы Лукашэнка, а не краіны Беларусь».

Каля амбасады Беларусі ў Маскве ўзмоцнена ахова, супрацоўнікі асцерагаліся несанкцыянаваных акцый. Да будынку амбасады на Марасейцы вечарам у суботу і ўсё нядзелю прыходзілі людзі, прыносілі кветкі і свечкі да партрэтаў пакараных. Было праведзена некалькі адзіночных пікетаў. Людзі стаялі з плакатамі «Супраць смяротнага пакарання!» і «Іх забілі па капрызе Лукашэнку!». А позна вечарам сабраліся каля 40 чалавек, якія ўсклалі кветкі і запалілі памінальныя свечкі.

Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва ўпэўненая, што з яе сынам расправіліся, каб схаваць сляды страшнага злачынства. Яна заявіла, што будзе змагацца супраць тых, хто сапраўды падарваў бомбу ў метро:

-Яны з ім управіліся, таму што Уладзік ў судзе праўду сказаў. Хто вінаваты? Толькі не гэтыя хлапчукі. З Уладам яны разлічыліся толькі за тое, што праўда выйшла. Яны не чакалі. Яны Уладу прыгразілі. Калі Улад памяняе паказанні ў судзе, яго чакае вышэйшая мера. Улад не спалохаўся. Ён усё гэта распавёў. Зразумейце, усё пайшло не па сцэнары. І цяпер усё гэта выйшла вонкі. Яны выдатна ведаюць, хто гэта зрабіў, хто падарваў метро. Ні Уладу, ні Дзімку гэта не трэба было, зразумейце! Я думаю, што зараз, дзякуючы ўсяму гэтаму, увесь свет падымецца і будзе расследаванне сапраўды так, як трэба, а не проста, што я адна тут змагалася, што я адна супраць іх ішла. Яны мне адпомсцілі, разумееце? Гэта проста помста маці. Цяпер я думаю, што сапраўды не спыніся ні перад чым. Здзіўляе паспешлівасць, з якой прысуд быў прыведзены ў выкананне: аб тым, што Лукашэнка адмовіў Кавалёву ў памілаванні стала вядома толькі 14 сакавіка, і ўжо праз два дні асуджаных расстралялі, нягледзячы на тое, што не былі нават выкананыя прававыя працэдуры. Праваабаронца Таццяна Равяка здзіўляецца:

- Беларускія ўлады захацелі падмануць нават камітэт па правах чалавека ААН, таму што паведамлялі, што скарга ў камітэт па справе Кавалёва і Канавалава не можа быць разгледжана, паколькі спачатку павінны быць выкарыстаныя ўсе нацыянальныя механізмы - наглядная скарга і памілаванне. Аднак, як усе ўжо ведаюць, адвакатам не далі магчымасці падаць наглядную скаргу, і, каб пазбегнуць ўздзеяння ААН, маментальна пакаралі смерцю асуджаных.

Эксперты мяркуюць, што такое грэбаванне міжнароднымі прававымі нормамі і настойлівымі заклікамі Еўрасаюза адмовіцца ад пакарання Кавалёва і Канавалава, пацягне за сабой сур'ёзныя наступствы для Лукашэнкі з боку Захаду.

Спікер Еўрапарламента Марцін Шульц выступіў з рэзкім асуджэннем расстрэлу Уладзіслава Кавалёва:

- Я шакаваны павеламленнем аб расстрэле Уладзіслава Кавалёва ў Беларусі. Ад імя Еўрапейскага парламента я шлю спачуванні яго сям'і. Я глыбока шкадую, што беларускія ўлады не прыслухаліся да заклікаў спыніць выкананне смяротнага прысуду з боку структур ЕС і міжнародных праваабарончых арганізацый. Я заклікаю ўлады Беларусі праявіць чалавечую годнасць і вярнуць цела сям'і. Пахаванне ў ананімнай магіле проста агідна і недапушчальна ў Еўропе 21 стагоддзя.

З асуджэннем пакарання выступілі таксама старшыня ПАСЕ Жан-Клод Міньён, генеральны сакратар СЕ Турб'ерн Ягланд, міністр замежных спраў Германіі Гіда Вестэрвеле, а таксама кіраўнік ведамства канцлера Ангелы Мэркель - Рональд Пафала. Міністр замежных спраў Галандыі Ury Розентале не толькі асудзіў дзеянні беларускіх уладаў, але і выступіў з заклікам да неадкладнага ўжывання санкцый.

Нагадваем, што пасля таго, як Лукашэнка адмовіўся памілаваць Кавалёва, Еўрапарламент даў беларускаму прэзідэнту час падумаць і перамяніць сваё рашэнне, адклаўшы галасаванне па праекце рэзалюцыі аб сітуацыі ў Беларусі на канец месяца. Цяпер жа, пасля таго, як гэты жэст быў праігнараваны, нічога не перашкаджае еўрапарламентарыям канчаткова прагаласаваць за ўвядзенне палітычных і эканамічных санкцый у дачыненні да рэспублікі.

**20.03.**
**svpressa.ru/society/article/53649/**

АЗІЯЦКІ НАПРАМАК

# ПОЧЕМУ В МОСКВЕ ЛУКАШЕНКО КУСАЛ ГУБЫ?

ГЛАВНЫМ ИТОГОМ САММИТА ЕВРАЗЭС СТАЛО РЕШЕНИЕ ПОВРЕМЕНИТЬ С ЛИКВИДАЦИЕЙ ЭТОЙ ОРГАНИЗАЦИИ. ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПРЕБЫВАЛ В МОСКВЕ НЕ В ЛУЧШЕМ РАСПОЛОЖЕНИИ ДУХА, А НА ФОТОГРАФИЯХ ВИДНО, КАК АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО ДАЖЕ КУСАЕТ ГУБЫ. ПОЧЕМУ БЕЛОРУССКОЕ РУКОВОДСТВО ЧУВСТВУЕТ СЕБЯ ДИСКОМФОРТНО?

По мнению политического обозревателя еженедельника «Белорусы и рынок» Павлюка Быковского, участникам саммита не удалось договориться по основным вопросам и это свидетельство «достаточно серьезных противоречий». Странам-партнерам России есть что терять — значимую часть суверенитета.

**Придется пускать предприятия с молотка**

— А белорусская сторона, наверное, не смогла получить ни очередного транша кредита от Антикризисного фонда ЕврАзЭС, ни обещаний на сохранение серьезных преференций со стороны России на ближайшее будущее, — отмечает эксперт.

То, что известно широкой аудитории о ценах на газ, не в полной мере выглядит как однозначно выигрышная позиция для белорусской стороны. Ведь там есть и такой пункт, как возможность потребовать от белорусской стороны одномоментно выкупить все акции «Белтрансгаза». Что касается нефти, то пошлины, которые Беларусь вынуждена платить в российский бюджет, во многом снимают ту выгоду, которую страна получила, согласившись вступить в этот евразийский проект.

У загвоздки в получении последнего транша кредита АКФ ЕврАзЭС есть официальные объяснения, касающиеся невыполнения белорусской стороной обязательств по госпрограммам — поддержке за счет бюджета отечественных производителей, например.

— Государственные программы превышают разрешенный кредитным соглашением объем. И уже это достаточное основание, чтобы не перечислять очередной транш кредита, — напоминает Павлюк Быковский.

Белорусское руководство вынуждено пускать с молотка ряд предприятий: на два с половиной миллиарда долларов надо продать собственности, поскольку это одно из условия получения дальнейших траншей кредита.

— Сейчас, когда идет холодная война с Западом, для российского капитала скупка привлекательных белорусских активов — просто дело техники.

Это весьма опасная перспектива, учитывая разность масштабов Беларуси и России, — отмечает политолог Александр Класковский.

**Делиться прерогативами белорусское руководство не намерено**

По мнению аналитика, Александр Лукашенко кусал губы еще и потому, что чувствует опасности втягивания в евразийскую интеграцию.

— Но у него, по сути, нет выбора. Точнее, он сам перечеркивает европейскую альтернативу такими вызывающими шагами, как введение «черного списка» невыездных или же расстрел двух людей, обвиненных во взрыве бомбы в минском метро, — отмечает аналитик. — Официальный Минск сейчас вынужден подыгрывать Кремлю и не раздражать Москву, поскольку мосты на Запад сожжены, экономика «сидит» на российской игле.

Сами по себе итоги саммита, по мнению аналитика, являются промежуточными.

— Беларусь, худо ли бедно, но какие-то плюсы получает именно от самого процесса участия в реализации кремлевских проектов. Самое главное, что на несколько лет вперед получены дешевые энергоносители, — обращает внимание эксперт.

Однако и проблем много. Во-первых, разные экономики: Россия и Казахстан — сырьевые страны, Беларусь — сборочный цех.

— Уже по этой причине трудно состыковать их — вот почему так мучительно бьются вокруг тарифов и цен на энергоносители, — полагает Александр Класковский.

Белорусская экономика является практически нерыночной, а в Казахстане и России рыночные реформы пошли гораздо дальше. И третья причина — это нормативные рамки Единого экономического пространства, которые в скором времени принудят координировать, в частности, макроэкономическую и финансовую политику, что для белорусского руководства тоже весьма неприятно.

Александр Класковский подытоживает: впереди все меньше будет пряников и все больше напрягающих моментов, не говоря уже о том, что переход на общую денежную единицу и делегирование иных полномочий наднациональным органам будет чем дальше, тем больше грозить утратой элементов белорусского суверенитета.

**Геннадий КОСАРЕВ.**

ВАЛЮТНАЯ ВЫРУЧКА

# Ці падзеліцца дзяржава валютнай выручкай з народам?

БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ДАЮЦЬ СПРАВАЗДАЧУ ПЕРАД НАСЕЛЬНІЦТВАМ АБ РЭКОРДНЫХ ТЭМПАХ РОСТУ ВАЛЮТНАЙ ВЫРУЧКІ І НЕБЫВАЛЫХ СУМАХ ЯЕ ПРЫТОКУ Ў КРАІНУ. НА ЯКУЮ ЧАСТКУ ВАЛЮТНАГА ПІРАГА МОГУЦЬ РАЗЛІЧВАЦЬ ШАРАГОВЫЯ БЕЛАРУСЫ?

- Сітуацыя ў эканоміцы цяпер адносна раўнаважкая, таму тэарэтычна павышэнне выручкі прапарцыйна павінна садзейнічаць далейшаму павышэнню ўзроўню жыцця насельніцтва. Аднак на практыцы гэтага не адбываецца, - адзначае эканаміст Сяргей Чалы, падкрэсліваючы, што паміж ростам экспарту і дабрабыту насельніцтва хутчэй існуе не прамая, а зваротная сувязь.

- Знешняя канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі і гандлёвы баланс палепшыліся як раз дзякуючы падзенню рэальных даходаў і ўзроўню жыцця, дэвальвацыі і, адпаведна, скарачэння вытворчых выдаткаў у даляравым выразе, - кажа эксперт. - Але калі прадпрыемствы здолеюць зарабіць дадатковую валюту, яны цалкам могуць дзяліцца заробленымі грашыма са сваімі работнікамі.

А вось дзяржава, паводле яго слоў, выгодамі, атрыманымі ад Расеі, ні з кім дзяліцца не збіраецца.

- Мы выходзім на дадатнае сальда, у тым ліку і за кошт скарачэння кошту газу і нафты. Аднак ўнутраны кошт застаецца нязменным, было гэта 245 даляраў за кубаметр газу або цяперашнія 165 даляраў, - аргументуе Сяргей Чалы.

Дадатковыя грошы ідуць «у бюджэтную скарбонку». У выніку іх могуць атрымаць некаторыя катэгорыі бюджэтнікаў. І можа да парламенцкіх выбараў штонебудзь падкінуць.

**Андрэй Саковіч.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),

**Падпісана да друку 29.03.2012 у 19.10.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.